# Голас Радзімы

№ 15 (2157)
12 красавіка 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Гарадоцкі раён, па тэрыторыі адзін з буйнейшых у рэспубліцы, размешчаны ў паўночна-ўсходняй частцы Беларусі і займае каля 3 тысяч квадратных кіламетраў. У ім пражывае каля 40 тысяч чалавек. Гарадоччына — край дзівоснай прыгажосці. Прырода шчодра адарыла яе надзвычай багатымі лясамі, лугамі, мноствам азёраў і рэк. Гісторыя краю ідзе далёка ў глыб стагоддзяў. Самыя старажытныя паселішчы, выяўленыя ў Езярышчы, Жукаве, маюць больш чым 1000-гадовую гісторыю. Гарадок жа вядомы з XVI стагоддзя — адзначаны на карце С. Па...віцкага 1579 года.

Як і ўся рэспубліка, Гарадоцкі раён жорстка пацярпеў ад нямецка-фашысцкага нашэсця. Уступіўшы ў Гарадок, савецкія воіны ўбачылі жудасную карціну варварскага разбурэння. Захопнікі нанеслі не толькі вялікі матэрыяльны ўрон, але і з нечуванай жорсткасцю расправіліся з мірным насельніцтвам. Фашысты замучылі і расстралялі больш за 16 тысяч чалавек, спалілі 201 населены пункт, а 14 вёсак спалілі разам з людзьмі. Свята аберагаючы сваё мінулае, сёння горад расце, будуецца, расшырае межы.

НА ЗДЫМКАХ: 83-гадовая Лідзія ЖУКОЎСКАЯ... адна са старэйшых жыхароў Гарадка, добра памятае, якім ён быў дзесяткі гадоў назад; мемарыяльны комплекс «Бессмяротнасць» узведзены ў памяць воінаў, што вызвалялі Гарадок у час Вялікай Айчыннай вайны; вось так афармляюць у Гарадку калодзежы; вуліца імя маршала Баграмяна.

Фота С. КРЫЦКАГА.





*ПАЛІТЫЗАЦЫЯ ГРАМАДСКАГА ЖЫЦЦЯ*

# З КІМ РАБОЧЫ КЛАС?

**Працэс палітызацыі народа сёння набыў у СССР небывалы размах. Паралель можна правесці хіба толькі з пачаткам стагоддзя: зноў маніфестацыі, шэсці, мітынгі... Не абышоў гэты працэс і прамысловых рабочых. Калі дакладней, то закрануў іх у найбольшай ступені. Аб тым, як мяняецца самасвядомасць, расце палітычная актыўнасць рабочых у Беларусі, нататкі журналіста Міхася СТЭЛЬМАКА.**

Нашы замежныя чытачы з інфармацыйных крыніц сваіх краін, з публікацый «Голасу Радзімы», спадзяёмся, ведаюць і памятаюць, што летась па Савецкай краіне пракацілася хваля гарняцкіх забастовак. Час, вядома, дасць ім дакладную і ў поўным аб'ёме гістарычную ацэнку. Аднак ужо сёння можна беспамылкова зрабіць некаторыя вывады. Гэтыя забастоўкі тысяч і тысяч шахцёраў Расіі, Украіны, Казахстана з'явіліся першымі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года самастойнымі масавымі выступленнямі рабочых, якія прад'явілі ўраду краіны разам з эканамічнымі патрабаваннямі палітычныя.

Яшчэ пяць-дзесяць гадоў назад сітуацыя характарызавалася тым, што супраць існуючых у краіне парадкаў выступалі з рабочага асяроддзя (як, наогул, і з іншых слаёў насельніцтва) толькі «бунтары-адзіночкі». І вось палітыкай заняліся тысячы і тысячы.

Што датычыцца самастойнасці. На мой погляд, гэтае паняцце да нядаўніх часоў проста не стасавалася з савецкімі рабочымі. Праўда, з высокіх трыбун словы «рабочы» і «самастойнасць» гучалі разам, побач стаялі яны і ў навуковых дысертацыях, але з пазіцый сённяшняга дня, з пазіцый гістарычнай праўды іх спалучэнне выглядае, па меншай меры, фальшывым. Таталітарнай сістэмай, заснаванай на адміністрацыйным дыктаце, рабочыя, як клас, былі пазбаўлены ўсялякай самастойнасці. Прычым, «механізм стрыножвання» працаваў, трэба прызнаць, бездакорна. Ёсць у гэтым віна і КПСС, і прафесіянальных саюзаў, якія закліканы абараняць інтарэсы працоўных, але на справе ўсё абарочвалася інакш. У значнай ступені так адбывалася таму, што прафсаюзных функцыянераў заўсёды прызначалі партыйныя камітэты, і прафсаюзныя дзеячы верай і праўдай служылі перш-наперш ім.

Працэсы апошніх месяцаў у асяроддзі рабочага класа нашай краіны якраз і з'явіліся вынікам усведамлення ім свайго сапраўднага становішча. Вядома, у кожнай саюзнай рэспубліцы яны працякаюць па-свойму. На Беларусі галоўная іх адметнасць, на мой погляд, умераны характар.

Салігорскія шахцёры, напрыклад (якія, нагадаем, здабываюць калійную соль), у час леташніх падзей у вугальных басейнах СССР праявілі прафесіянальную і інтэрнацыянальную салідарнасць з гарнякамі іншых рэспублік, яны таксама прад'явілі ўраду шэраг патрабаванняў эканамічнага характару. Аднак ад забастовак, улічваючы цяжкае фінансавае становішча краіны і, у першую чаргу, вялізныя матэрыяльныя патрэбнасці нашай рэспублікі для пераадолення вынікаў чарнобыльскай аварыі, устрымаліся. Такая іх пазіцыя, дзе праявіліся, з аднаго боку, свядомы класавы пратэст супраць адміністрацыйна-каманднай сістэмы і сацыяльнай несправядлівасці, а з другога, высокая ступень сумленнасці і адказнасці перад сваімі суайчыннікамі ў цяжкі для іх час, безумоўна, не магла не выклікаць сімпатый у народзе.

Менавіта салігорцы, хаця, магчыма, і воляй абставін, аказаліся першымі найбольш прыкметнымі ў рэспубліцы прадстаўнікамі такой плыні ў масавым рабочым руху, праграмныя мэты і задачы якой — эканамічная свабода.

Поруч з эканамічным рэфармісцкім рухам у рабочым асяроддзі рэспублікі набірае размах рух палітычны. Ён стаў вынікам працэсаў дэмакратызацыі і публічнасці, усведамлення і асэнсавання, як ужо адзначалася, людзьмі ад станка свайго сапраўднага становішча ў грамадстве.

Трэба прызнаць і такі факт, што дзесяцігоддзямі самі рабочыя, на жаль, уносілі немалы «ўклад»у захаванне існуючых у грамадстве парадкаў. У прыватнасці, менавіта іхнімі галасамі ўхвалялася палітыка Сталіна і Брэжнева, асуджалася іншадумства Салжаніцына і Сахарава... Нават у часы перабудовы ў нас на Беларусі за подпісамі рабочых людзей у некаторых сродках масавай інфармацыі арганізоўваліся кампаніі асуджэння нацыянальнай інтэлігенцыі, пісьменніка Ва[...]ля Быкава, нефармальн[...] арганізацый, а таксама дамаганні дзяржаўнасці беларускай мовы.

Але час ішоў. На палітычнай арэне рэспублікі ўзн[...] Беларускі народны фронт [...] многіх вытворчых калектыва[...]вах Мінска, абласных і раённых цэнтраў пачалі стварацца групы яго падтрымкі.

Пазней ініцыятыўная група рабочых з БНФ зрабіла спробу ўтварэння ў рэспубліцы масавай палітычнай арганізацыі рабочых — Рабочага саюза Беларусі (РСБ). Аднак далей стварэння арганізацыйнага камітэта па правядзенню ўстаноўчай канферэнцыі новага фарміравання справа пакуль не пайшла. Прычын таму, на маю думку, нямала. І сярод іх, безумоўна, — процідзеянне ўлад. У супрацьвагу імі з дапамогай прафсаюзаў была за кароткі час створана рэспубліканская арганізацыя — Савет працоўных калектываў Беларусі (СПКБ). І хаця ў кіруючы орган СПКБ увайшло нямала вядомых прадстаўнікоў рабочага класа, а на ўстаноўчай канферэнцыі гэтай арганізацыі былі прынятыя цікавыя і змястоўныя дакументы, пра яе актыўную работу ў масах працоўных на фабрыках і заводах пакуль таксама казаць не прыходзіцца.

Пачалі ўзнікаць у апошні час у рэспубліцы, у прыватнасці на прадпрыемствах гарадскога аўтатранспарту Мінска, такія палітычныя арганізацыі рабочых, як «незалежныя прафсаюзы». Як складзецца іх лёс далей, прадказаць, канешне, пакуль немагчыма.

РСБ, СПКБ, «незалежныя прафсаюзы»... І гэта акрамя афіцыйных палітычных структур. Такі стракаты спектр сведчыць аб тым, што сыходзіць у нябыт стэрэатып успрымання беларускага рабочага класа як аднароднага, непадуладнага зменам арганізма. Рабочыя ўжо больш не жадаюць, каб нехта іх вёў.

## МІЛАСЭРНАСЦЬ КОЖНЫ ДЗЕНЬ





Многія адзінокія састарэлыя людзі, інваліды, што жывуць у мікрараёне Мір-2 у Магілёве, карыстаюцца паслугамі новага медыка-сацыяльнага цэнтра, які створаны па ініцыятыве раённага камітэта Таварыства Чырвонага Крыжа. Абслуговы персанал цэнтра складаецца з прафесійных медыцынскіх работнікаў. У дзень цэнтр наведваюць да 30 чалавек. Пенсіянеры з нізкім матэрыяльным забеспячэннем могуць атрымаць тут талоны на бясплатнае харчаванне, набыць адзенне, абутак.

**НА ЗДЫМКАХ:** пакой адпачынку ў цэнтры міласэрнасці збірае многіх пажылых людзей да сустрэчы за шклянкай чаю; Фёкла СІНЧУРАВА падбірае для сябе сукенку.

Фота С. ЖАЛУДОВІЧА.

САВЕЦКАЯ ЭКАНОМІКА—ЧАСТКА АГУЛЬНАСУСВЕТНАЙ

# *КУРС НА ЗБЛІЖЭННЕ З ГАТТ*

Сёння не выклікае сумнення неабходнасць актыўнага ўдзелу Савецкага Саюза ў сусветнай гандлёвай сістэме, арганізацыях, якія рэгулююць яе. Буйнейшая з іх — Генеральнае пагадненне аб тарыфах і гандлі (ГАТТ), якое аб'ядноўвае каля 100 краін. СССР выбраў курс на збліжэнне з ГАТТ з канчатковай мэтай на поўнае членства ў гэтым пагадненні. І такі крок заканамерны: у сучасным узаемазалежным свеце савецкая эканоміка — частка агульнасусветнай.

Разам з тым падобнае збліжэнне мае сваю этапнасць, патрабуе правядзення аб'ёмнай падрыхтоўчай работы ўнутры краіны і па-за яе межамі. Спрыяльныя ўмовы для гэтага ствараюць гаспадарчая рэформа ў СССР, новы механізм яго знешнеэканамічных сувязей. Духу ГАТТ адпавядае стварэнне ў Савецкім Саюзе адкрытай эканомікі, якая развіваецца ва ўзаемасувязі і спаборніцтве з сусветнай. Цэлы шэраг новараспрацаваных інструментаў рэгулявання знешнеэканамічных сувязей Савецкага Саюза — макет таможнага тарыфу, меры нетарыфнага рэгулявання гандлю, таможная дэкларацыя — цалкам адпавядае тэхнічным правілам пагаднення. На рэцэнзіі ў Сакратарыяце ГАТТ знаходзіцца праект новага таможнага заканадаўства СССР.

Тым не менш варта прызнаць, што да поўнага членства ў ГАТТ краіна пакуль не гатова. Справу тармозіць затрымка з ходам агульнаэканамічнай рэформы, якая стрымлівае і знешнеэканамічную. Так, ужо не раз адкладвалася рэформа цэнаўтварэння, а без яе нельга зблізіць айчынныя цэны з сусветнымі, ліквідаваць субсідыі, разлічыць новы курс рубля, праставіць канкрэтныя стаўкі таможнага тарыфу. Адкрыццё савецкага рынку для канкурэнцыі стрымлівае маруднае станаўленне аптовага гандлю ў краіне. І гэты пералік можна было б працягваць.

У такіх умовах Савецкі Саюз вырашыў у якасці першага кроку выпрабаваць магчымасць далучэння да ГАТТ на правах не поўнага члена, а назіральніка. Дарэчы, на большае тут цяпер, відаць, не гатовы палітычна пайсці і многія ўплывовыя краіны — члены пагаднення.

Назіральны статус яшчэ не дае права карыстацца канкрэтнымі льготамі ў гандлі. Але ён дазваляе ўдзельнічаць у адкрытых пасяджэннях рабочых органаў ГАТТ, гэта значыць прымаць удзел у фарміраванні міжнароднай гандлёвай палітыкі. Адначасова гэта і школа, доступ да вопыту рэгулявання рыначнай эканомікі.

Таму з пачатку лютага савецкая дыпламатыя пачала актыўныя кансультацыі з краінамі-членамі і Сакратарыятам ГАТТ на прадмет вызначэння магчымасці і ўмоў такога назіральніцтва. Кансультацыі ідуць праз савецкіх паслоў у сталіцах краін—членаў ГАТТ, выезд туды савецкіх дэлегацый. Адбыліся выязныя кансультацыі ў Індыі, штаб-кватэры Еўрапейскіх таварыстваў у Бруселі, у Францыі, Галандыі, Югаславіі. Аб сваіх станоўчых адносінах да савецкай ініцыятывы заявілі ўжо прыкладна 30 дзяржаў. У сярэдзіне лютага аб планах СССР у адносінах ГАТТ былі інфармаваны ў Маскве краіны — члены СЭУ. У бліжэйшы час намячаюцца кансультацыі ў ЗША, Канадзе, Італіі, Швецыі, краінах Афрыкі, крыху пазней — у Японіі і Лацінскай Амерыцы.

У залежнасці ад іх выніку будзе вызначана і канкрэтная тактыка з падачай савецкай заяўкі на назіральны статус у ГАТТ. У ідэале яна магла быць пададзена ў сакавіку і разгледжана на сесіі Савета ГАТТ у пачатку красавіка. Гэта не безаглядная спешка, а разумнае паскарэнне спраў, таму што ў ГАТТ пачнецца гарачы час у сувязі з намерам краін-членаў завяршыць чарговы, «Уругвайскі раунд» гандлёвых перагавораў да канца 1990 года. Праўда, ёсць меркаванне, што савецкую заяўку можна было б разгледзець пасля завяршэння гэтага раунда, у 1991 годзе.

Аднак аргументы на карысць пераносу на 1991 год не ўяўляюцца пераканаўчымі. Па-першае, назіральны статус не мае прамой сувязі з вынікамі «Уругвайскага раунда». Па-другое, паўторымся, назіральны статус у ГАТТ для нас школа, а раз так, то і пачаць гэта лепш хутчэй. Асабліва ў сувязі з тым, што менавіта ў 1990 годзе ў СССР трэба будзе прыняць буйны блок рынача арыентаванага гаспадарчага заканадаўства, а яно, у святле новага палітычнага мыслення, павінна быць супастаўімым з сусветным.

Пакуль жа вызначаны савецкія спецыялісты, якія вядуць кансультацыі, удакладняецца іх графік. Відавочна, папярэднія вынікі такіх кантактаў (акрамя лацінаамерыканскіх і японскіх) вызначацца хутка. Больш позні тэрмін кансультацый з апошнімі тлумачыцца чакаемай зменай урадаў Японіі і Бразіліі па выніках праведзеных выбараў.

Адным словам, перад савецкай эканамічнай дыпламатыяй стаяць сур'ёзныя задачы. Аднак курс краіны на ўсямернае развіццё гандлёва-эканамічных сувязей з усімі краінамі з'яўляецца незваротным.

**ІВАН ІВАНОЎ,**
**намеснік старшыні Дзяржаўнай знешнеэканамічнай камісіі Савета Міністраў СССР, доктар эканамічных навук.**

## *КІНАФЕСТЫВАЛЬ «ВЯСНА-90»*







У сёлетняга, васемнаццатага па ліку, фестывалю беларускага кіно, які адкрыўся ў кінатэатры «Кастрычнік» новай работай кінарэжысёра В. Турава «Высокая кроў», ёсць свае асаблівасці. Раней безыменны, у гэтым годзе ён атрымаў цёплую, сонечную назву «Вясна-90». З прафесійнага агляду работ кінастудыі фестываль ператварыўся ў сапраўднае народнае свята беларускага кінамастацтва. У рэпертуарнай афішы кінафоруму — у асноўным, прэм'ерныя стужкі розных стыляў і жанраў. Больш за 20 работ кінастудыі «Беларусьфільм» будуць дэманстравацца ў кінатэатрах Мінска на працягу тыдня. Арганізуюцца сустрэчы з творчымі калектывамі. У фінале тры журы, што працуюць на фестывалі, назавуць лепшыя беларускія стужкі года. Спонсарам «Вясны-90» стала вытворчае аб'яднанне «Гарызонт», якое заснавала свае ўзнагароды і прызы.

НА ЗДЫМКАХ: адкрыццё фестывалю беларускага кіно «Вясна-90»; выступае народная артыстка СССР С. СТАНЮТА; хлебам-соллю сустракае гасцей фестывалю фальклорна-этнаграфічны калектыў «Чарот» з Рудзенскага раёна.

Фота Л. КЛІМАНСКАГА.

## *З НОВЫХ ВЕРШАЎ*

**Віктар ШНІП**

жыву сярод камянёў
якія могуць быць сцяной
якія могуць быць жорнамі
якія могуць быць помнікамі
у кожнага каменя свой лёс
які зараз залежыць ад мяне
магу збудаваць дом
але баюся атрымаецца турма
магу зрабіць жорны
але няма чаго малоць
магу паставіць сабе помнік
але я не двойчы герой
і я жыву сярод камянёў
і я залежу ад камянёў
як тапелец-самагубца
залежыць ад каменя
які ў яго на шыі

***

Душу ад бруду ратаваць,
Як белы Храм ад разбурэння.
Расце на валуне трава,
У небе сеецца насенне.

Хлапчук наіўны любіць дым,
Дым ад кастра у чыстым полі.
Мы ўсе да бога адляцім —
Хоць з доляю, а хто без долі.

Гудуць бязбожныя вятры,
Гусцеюць хмары навальніцы.
Пра бога страшна гаварыць,
Хлапчук наіўны — не баіцца.
Яго душу нам ратаваць,
Як белы Храм ад разбурэння...
А дым ляціць, расце трава,
І мітусяцца ў небе цені.

**Анатоль ДЭБІШ**

### КАВА[1]

Мне сніўся сон: на полі сечы,
Дзе бітва жорсткая была,
Знянацку мне ўпілася ў плечы
Чужая вострая страла.

І вочы мне заслала мглою.
І голас ратных згукаў сціх...
Крыжак спыніўся нада мною
І меч мой вырваў з рук маіх.

І я з палонам прымірыўся —
Што спадзявацца мне на цуд! —
Як Ён перада мной з'явіўся
І рукі вызваліў ад пут.

І так сказаў: «Я грозны Кава,
Нягожа быць табе рабом,
Вось меч — або памры са славай,
Ці будзь заўжды папіхачом!»

І сілу я адчуў, і рушыў
Ізноў туды, дзе бой кіпеў.
І за сабою чуў я мужны,
Непераможны, зычны спеў!

* Бог вайны [illegible]авянаў.

**Таццяна САПАЧ**

***

Змяшанне з[illegible]ых фарбаў —
няжоўтай і
неблакітнай
і часам празрыста-чорнай
з пранізлівай і сцюдзёнай —
у небе,
падзертым на паскі —
і гэта,
нарэшце,
дождж!..
Дрэва, поўнае зроку,
сцяжына, поўная слыху —
насуперак сну і страху,
насупраць святла і лёху —
і гэта, здаецца,
я..
І пад палахлівыя крыкі
шматлюднай сям'і вераб'інай
мы ціха сыходзім з карціны —
з двух розных бакоў палатна —
і крышацца, быццам крыгі,
забыўшы на перасцярогі,
задзіўленыя, знямоглыя,
глухія рамкі вакна.

**Алесь БАДАК**

### У ТУМАНЕ

Нехта нябачны ў загуслым тумане
Ціха пакліча мяне на змярканні.
Выйду на голас я ў мглістае поле.
— Хто ты! — спытаю.
Адкажа мне: — Воля!

Толькі пачну да яе набліжацца —
Голас пяшчотны пачне аддаляцца.
Следам пайду я, і будзе навокал
Слацца туман, хоць ты выкалі вока.

Сэрца заные, і стомяцца ногі.
Стану, адчуўшы, што збіўся з дарогі.
Гляну на дол... а там недзе далёка
Сонца пачне выплываць з-за аблокаў.

## РЭНЕСАНС ДУХОЎНАЙ МУЗЫКІ

# НЯХАЙ ПАСВЯТЛЕЮЦЬ ДУМКІ І ПАДАБРЭЕ СЭРЦА ВАША...

Духоўная музыка пачынае выходзіць з-пад адміністрацыйных забарон і зноў, як калісьці, гучыць у храмах і канцэртных залах. Доказ гэтаму — першы фестываль духоўнай музыкі, што прайшоў у Мінску, дзе прынялі ўдзел многія царкоўныя хоры Масквы і Мінска, а таксама нашы вядучыя прафесійныя акадэмічныя калектывы (капэлы імя Шырмы, «Латвія», «Дойна» і інш.), якія ўключаюць у свае праграмы духоўную музыку.

Добра арганізаваны і праведзены на высокім узроўні фестываль даў вялікі пажытак для роздуму. У асноўным гэтыя разважанні зводзіліся да дзвюх праблем. Па-першае, да занадта звужанага паняцця «айчынная культура», якое бытавала да сённяшняга дня, і да таго, што цяпер адкрываецца перспектыва ўзбагаціць нашы веды, саміх сябе. Па-другое, гэтыя разважанні наводзілі на думку аб грамадскай значнасці такога мерапрыемства. Сапраўды, калі задумацца аб месцы культуры, сур'ёзнага мастацтва, духоўных патрэб у шырокіх слаях народа, то нам тут пахваліцца няма чым: месца гэтае адно з апошніх. Пішуць, спрачаюцца, разважаюць на ўсіх узроўнях аб тым, чаму пакінуў слухач канцэртныя залы, якія вартасці той поп-культуры, што валодае сёння розумамі і пачуццямі моладзі і г. д. І раптам на працягу шасці вечароў запар перапоўненая зала, няма дзе прытуліцца, нават стоячы. А гучалі тут харавыя песнапенні ад псалмоў XVI стагоддзя, да твораў нашых дзён (на фестывалі былі нават прэм'еры, напрыклад, кантата маладога беларускага аўтара Ганны Казловай «Русь праваслаўная»), і ўсе яны ўспрымаліся горача і непасрэдна. У зале многа інтэлігентнай публікі. Канцэртным праграмам папярэднічалі духоўна-асветніцкія сходы, на якіх выступалі вучоныя, дзеячы царквы і культуры, пісьменнікі. Адны толькі зносіны з добра ўплывалі на атмасферу вечароў.

І вось я вырашыў высветліць, у чым феномен такой вялікай папулярнасці фестывалю. Мне ўдалося ўзяць некалькі інтэрв'ю ў асоб, якія так ці інакш звязаны з фестывалем. Першае слова экзарху Беларусі, Мітрапаліту Мінскаму і Гродзенскаму ФІЛАРЭТУ.

**— Уладыка, трэба думаць, ідэя правядзення такога фестывалю ў Беларусі належыць вам! Якія мэты вы мелі, задумваючы яго правядзенне! І якое, па-вашаму, уздзеянне музыкі на чалавека!**

— Ну, па-першае, такія фестывалі ўжо праводзіліся ў Маскве, таму нельга сказаць, што ідэя яго належыць мне. Мы садзейнічалі таму, каб праграма Маскоўскага фестывалю была паказана ў Мінску, з удзелам мясцовых як царкоўных, так і дзяржаўных харавых калектываў. Гэта, безумоўна, дапаможа павысіць цікавасць нашых слухачоў да харавой культуры, паслужыць высакароднай справе маральнай дасканаласці асобы, далучыць людзей да прыгажосці духоўных спеваў і ўвогуле спеваў, якія ляжаць у аснове ўсяго музычнага выхавання. У гэтых пытаннях мы ў Беларусі вельмі адстаём ад Прыбалтыкі, Украіны, Масквы, хаця нашы традыцыі такія ж багатыя, але мы іх проста страцілі.

Што ж тычыцца ўздзеяння мастацтва на чалавека, то ўсе мы добра ведаем, што тут нішто не можа параўнацца з музыкай. Узяць, напрыклад, духоўныя творы Бартнянскага, Чайкоўскага, Рахманінава ці Грачанінава — гэта ж не проста прыгожая музыка, гэта найвышэйшая праява чалавечага духу, яго вераванняў і пачуццяў. Слухаючы іх, убіраеш сокі айчыннай культуры, пранікаешся глыбінёй іх вобразаў, цеплынёй сэрца і душы іх стваральнікаў. Класічная і духоўная музыка з'яўляюцца нашай спадчынай, нашым здабыткам, асновай маральнай дасканаласці чалавека. Але аб гэтым у нас пачалі забываць і страчваць сувязі з культурай мінулых стагоддзяў. Праваслаўная царква заўсёды была захавальніцай гэтага здабытку, і вось настаў час вярнуць яго народу.

Наступныя мае пытанні маскоўскаму кампазітару царкоўнай музыкі У. МАРТЫНАВУ і дырэктару-арганізатару фестывалю Г. ПАЛЯЧЭНКУ.

**— Уладзімір Іванавіч, доўгі час мы былі пазбаўлены ўсякай інфармацыі аб царкоўным жыцці. Між тым яно не згасала. Функцыяніравалі музычныя калектывы ў цэрквах. Ці развівалася ў гэтыя гады прафесіянальная царкоўная музыка!**

— Руская музыка пакінула нам у спадчыну не толькі выдатныя ўзоры царкоўных твораў, якія вядомы ўсяму свету, але і цэлую плеяду кампазітараў, пасля якіх засталася багатая спадчына, але якая пасля рэвалюцыі практычна не гучала. Хто гэтыя кампазітары? Гэта музыканты, якія групаваліся вакол сінодскага вучылішча і яго хору: Архангельскі, Часнакоў, Кастальскі, Смаленскі і іншыя. Толькі цяпер іх творы пачынаюць выконвацца. Некаторыя з іх гучалі і на нядаўнім фестывалі.

Сярод кампазітараў-сучаснікаў, якія звязалі сваю творчасць з рускай праваслаўнай царквой, можна назваць Сяргея Трубачова, які стварыў многа хароў, службу на святкаванне 1000-годдзя Хрышчэння Русі. Мною напісаны тры літургіі і расшыфравана мноства твораў XVI стагоддзя.

Выдатныя творы напісаны кампазітарамі не царкоўнага напрамку — такімі, як Карэтнікаў, Свірыдаў, Шнітке, Эшпай і іншыя. Аднак, нягледзячы на тое, што гэтыя творы напісаны на кананічныя тэксты, яны не

(Заканчэнне на 8-й стар.).

### У ГОМЕЛЬСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ УНІВЕРСІТЭЦЕ СТВАРАЕЦЦА МУЗЕЙ-ЛАБАРАТОРЫЯ Ф. СКАРЫНЫ

# ЖЫВАЯ ГАЛІНКА ПАМЯЦІ

У Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны ішлі сваім парадкам заняткі. Ап'янелыя ад нечакана цёплага сакавіцкага надвор'я дзяўчаты і хлопцы шпацыравалі на перапынку па калідорах, тоўпіліся ва універсітэцкім дворыку, абмяркоўваючы нейкія свае справы. А мы з прафесарам Уладзімірам Анічэнкам ужо каторы раз абыходзілі ўздоўж і ўпоперак вялікі і светлы вестыбюль галоўнага корпуса.

— Во тут размесціцца наш музей,— па-гаспадарску тлумачыў прафесар,— праўда, пакуль што нічога не абсталявана, мастакі аформілі толькі столь. Справа часу... Добра, што гэтак светла, многа святла. Кветкі, зеляніна няхай застаюцца. Простае шкло нядрэнна было б замяніць вітражамі. Сцены ўпрыгожаць жывапісныя і графічныя творы мастацтва. Тут экспанаты...

Шаноўны прафесар гэтак натхнёна і ўзвышана гаварыў пра будучы музей, што я неяк неўпрыкмет забылася, што знаходжуся ў напаўпустым вестыбюлі, што навокал людзі. Уяўленне перанесла мяне ў іншыя эпохі, у іншае асяроддзе. Калыхнулася хваля памяці. Ажылі славутыя нашы папярэднікі. Велічная постаць першадрукара мільганула між калон... І толькі рэзкі званок, што абвяшчаў канец лекцыі, вярнуў нас у рэальнасць.

— Я не фантазёр і не дзівак, — уважліва глянуўшы мне ў вочы, нібы зразумеўшы засеўшае там пытанне, выразна, як на лекцыі для студэнтаў, вымавіў вучоны.— Думка аб стварэнні такога музея выспявала ў мяне даўно. Вы ведаеце, чаму менавіта Гомельскаму універсітэту было прысвоена імя Скарыны? На гэта прэтэндавалі многія іншыя культурныя ўстановы Беларусі. Але па ўсеагульнаму прызнанню, наша кафедра беларускай мовы ўнесла найбольшы ўклад у развіццё Скарыніяны. Асабіста я быў удастоены пазалетась Дзяржпрэміі БССР за цыкл работ «Лінгвістычная Скарыніяна», сюды ўваходзіць і двухтомны слоўнік мовы Скарыны. Такім чынам, наш універсітэт заслужыў ганаровае права насіць імя першадрукара. А гонар жа трэба апраўдваць.

...Мы сядзім у невялікім кабінеце загадчыка кафедры беларускай мовы, вучонага-моваведа з сусветнай вядомасцю Уладзіміра Анічэнкі. У кніжных шафах я бачу дзесяткі кніг, аўтарам якіх з'яўляецца мой субяседнік. Кінуўшы ўсе справы — а іх у яго бясконца многа,— Уладзімір Васільевіч расказвае зноў пра сваё любімае дзецішча.

— Адным з імпульсаў да стварэння музея паслужылі Скарынаўскія чытанні, што праходзілі ў 1987 годзе ў Мінску, у АН БССР. Я там выступаў з дакладам. А ў перапынку ўбачыў выстаўку твораў беларускіх мастакоў, прысвечаных Скарыне (з калекцыі А. Белага). Ужо тады я пачаў перагаворы з уладальнікам збору. Угаварыў яго прадаць калекцыю нашаму універсітэту.

А неўзабаве яшчэ адна падзея паслужыла на карысць будучага музея. Летась Уладзімір Васільевіч быў запрошаны на славянскі факультэт Лонданскага універсітэта для правядзення нарады з прафесарска-выкладчыцкім саставам, які спецыялізуецца ў галіне ўсходнеславянскіх моў, у тым ліку і беларускай. Асабліва зацікавіліся слухачы лінгвістычнай Скарыніянай, і нездарма, як лічыць У. Анічэнка. Лонданскіх вучоных дужа цікавіла прынцыповае і істотнае пытанне: «Якому народу найперш служыў Скарына і ў мове якога народа ён пакінуў найбольш прыкметны след?» Пытанне такое, як вядома, узнікла ў сувязі з тым, што ў існуючай Скарыніяне вывучэнне навуковай і культурнай дзейнасці Скарыны развівалася і развіваецца ў розных краінах па-рознаму. Скажам, польскія вучоныя скарынаўскае навуковае і культурнае наватарства ставяць у шэраг дасягненняў сваіх навуковых і культурных дзеячаў, італьянскія, чэшскія і іншыя — сваіх... Такім чын... расказваючы пра лінгвісты... наватарства беларускага перш... друкара, Уладзімір Анічэнка кіраваўся надзейным фактычным матэрыялам на карысць беларускай мовы. На нарадзе станоўча быў ацэнены ўклад... шых вучоных у падрыхтоўк... выданне персанальнай энцыклапедыі «Францыск Скарына і яго час», і адначасова выказваліся заўвагі пра адсутнасць у даведніку шматлікіх прац замежных аўтараў пра Скарыну.

Вучоны з Гомеля звярнуўся ў Беларускую бібліятэку і музей імя Ф. Скарыны, створаныя на ахвяраванні нашых суайчыннікаў у Вялікабрытаніі, дзе захоўваюцца унікальныя выданні пра Беларусь і наш народ на розных мовах, у тым ліку і багатая калекцыя літаратуры па скарыназнаўству.

— Мне далі магчымасць плённа там папрацаваць,— гаворыць У. Анічэнка.— Выявіць і зрабіць неабходныя шматлікія ксеракопіі Скарыніяны тых аўтараў, якія адсутнічаюць у нашым энцыклапедычным даведніку. Больш таго, даведаўшыся, што мы працуем над стварэннем музея-лабараторыі Скарыны ў Гомельскім універсітэце, землякі ў Лондане ўручылі мне 200 фунтаў англійскіх стэрлінгаў на гэту справу. Матэрыялы, прывезеныя з Англіі, я ўжо апісаў. Яны будуць выкарыстаны для новага выдання персанальнай скарынаўскай энцыклапедыі, што рыхтуецца да выдання на рускай мове. А з тых ксеракопій робяцца яшчэ ксеракопіі ўжо для нашага будучага музея.

Што яшчэ будзе прадстаўлена ў музеі Скарыны ў Гомелі? На гэта пытанне я папрасіла адказаць яго дырэктара Канстанціна Усовіча.

— Рыхтуецца пано з кароткай гісторыяй жыцця і дзейнасці Скарыны. Складаецца бібліяграфія ўсіх кніг і артыкулаў пра першадрукара. У музейную экспазіцыю ўвойдзе карцінная галерэя, складзеная з твораў мастацтва. Скульптарам заказана мемарыяльная дошка. Наведвальнікі змогуць убачыць тут копіі кніг, выдадзеных Скарынам, копіі або арыгіналы яго асабістых дакументаў, макеты і малюнкі касцюмаў і асабістых рэчаў сучаснікаў Скарыны — вучоных тагачасных універсітэтаў, партрэты вучоных — папярэднікаў, сучаснікаў і паслядоўнікаў Скарыны...

Са слоў Канстанціна Усовіча я даведалася таксама, што музей будзе адкрыты для наведванняў, а экскурсаводамі і кансультантамі будуць яго супрацоўнікі. Гэта маладыя вучоныя з кафедры беларускай мовы, якія ўжо не адзін год працуюць разам з Уладзімірам Анічэнкам, прымалі самы непасрэдны ўдзел у стварэнні слоўніка мовы Янкі Купалы.

Справы з музеем Скарыны ў Гомелі, хаця і марудна, але рухаюцца ў асноўным сіламі супрацоўнікаў універсітэта. І ад таго, што да гэтай вялікай і адказнай работы па-сапраўднаму не далучыліся яшчэ ні гарадскія, ні рэспубліканскія ўлады, церпіць уся наша культура.

— Наш музей у даволі цяжкім становішчы,— не стаў хаваць шматлікіх праблем яго хросны бацька Уладзімір Анічэнка.— Загадчык у музея ёсць. Зарплата яму вызначана з унутраных рэзерваў універсітэта. Але я вось што вам скажу: у нас жа не проста музей. А музей - ла-ба-ра-то-ры-я! Гэта азначае існаванне не толькі застылай структуры, якой будзе сама экспазіцыя, а навуковай дзейнасці. Тады ў нас будзе навуковая ўстанова. Такія музеі-лабараторыі ёсць у Празе і Сафіі, у іншых еўрапейскіх гарадах. Трэба ска..., што пытанне аб зацвяр...нні штатнага раскладу для нашага музея-лабараторыі разглядаецца ў міністэрстве. Пры станоўчым вырашэнні пытання тут можна разгарнуць такую работу! Напрыклад, адн... супрацоўнікі змаглі б тады ...цаваць толькі над Скарыніян... А другія заняліся б сур'ёзна духоўнай культурай Палесся. І гэта вельмі адпавядала б лепшым скарынаўскім традыцыям, самой сутнасці асветніцкай дзейнасці Скарыны, было б лепшым помнікам вучонаму і патрыёту сваёй Бацькаўшчыны, чый юбілей увесь славянскі свет адзначыць сёлета.

Надта хочацца прыехаць мне ў Гомель восенню, калі распачне сваю дзейнасць музей-лабараторыя Ф. Скарыны. Калі будзе ажыццёўлена ўсё задуманае, гэтая ўстанова можа стаць сапраўднай гордасцю Беларусі, а для мясцовай моладзі яшчэ і школай выхавання нацыянальнай годнасці і самасвядомасці. Ужо сёння студэнты Гомельскага універсітэта выконваюць курсавыя і дыпломныя работы па скарынаўскай тэматыцы, пасылаюць сваіх дакладчыкаў па Скарыніяне на рэспубліканскія студэнцкія навуковыя чытанні.

**...На развітанне прафесар Уладзімір Анічэнка папрасіў: «Напішыце ў вашай газеце, што мы будзем удзячныя любой дапамозе, якую змогуць аказаць нам у стварэнні музея-лабараторыі імя Ф. Скарыны паважаныя чытачы «Голасу Радзімы».**

Ад сябе дадам, што музей у Гомелі — не толькі справа прэстыжу Беларусі напярэдадні юбілею першадрукара, але і жывая галінка памяці і духоўнай пераемнасці.

**Таццяна АНТОНАВА.**

САВЕТ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР

ПАСТАНОВА

ад 29 лістапада 1988 г. № 349

г. Мінск

АБ ПРЫСВАЕННІ ІМЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ ГОМЕЛЬСКАМУ ДЗЯРЖАЎНАМУ УНІВЕРСІТЭТУ

Савет Міністраў Беларускай ССР пастанаўляе:

Прысвоіць імя Францыска Скарыны Гомельскаму дзяржаўнаму універсітэту Міністэрства народнай адукацыі БССР і ў далейшым іменаваць яго Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны.

Нам. Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР — У. Еўтух.

Упраўляючы Справамі Савета Міністраў Беларускай ССР — Л. Максімаў.



Першапачатны друкарскі станок (прэс)




**НА ЗДЫМКАХ: пастанова аб прысваенні Гомельскаму дзяржаўнаму універсітэту імя Францыска Скарыны; гэта ксеракопія зроблена У. АНІЧЭНКАМ у Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане; сувенір да юбілею першадрукара.**

**Фота М. ВЫСОЦКАГА.**

## НАШ СУЧАСНІК — ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

Рэспубліканская выстаўка «Багушэвіч і яго час», прысвечаная 150-годдзю з дня нараджэння пачынальніка новай беларускай літаратуры, працуе ў мінскім Палацы мастацтва. У экспазіцыі прадстаўлены жывапісныя палотны і графічныя творы, скульптурныя партрэты і памятныя медалі, здымкі, розныя дакументы, што ўзнаўляюць не толькі аблічча самога паэта, а і расказваюць пра яго акружэнне, пра важнейшыя падзеі, сведкам якіх і актыўным удзельнікам ён быў.

Змешчаны як новыя творы, выкананыя непасрэдна да юбілею, так і тыя, што маюць рэтраспектыўны характар. Прынамсі, яшчэ 1929 годам датуецца работа Я. Драздовіча «Кушлянская капліца Ф. Багушэвіча». Аматары мастацтва знаёмы ўжо таксама з творамі П. Сергіевіча, У. Стальмашонка, М. Купавы і іншых аўтараў, з ілюстрацыямі да вершаў паэта.

Многія ж работы выкананы нядаўна: цыкл М. Аўсяннікава «Кушляны» («Радзіма Ф. Багушэвіча», «Месцы сустрэчы паўстанцаў К. Каліноўскага», «Дарога ў Кушляны»), медаль П. Лука «Мацей Бурачок (Ф. Багушэвіч)», медаль А. Дранца «Ф. Багушэвіч» і іншыя.

## НЕСТАРЭЮЧЫЯ «ПЕСНЯРЫ»

Не змагла ўмясціць паклоннікаў старэйшага беларускага ансамбля канцэртная зала Белдзяржфілармоніі. 1 красавіка на сустрэчу з «падросшымі» на дваццаць гадоў «Песнярамі» прыйшлі іх прыхільнікі далёкіх сямідзесятых гадоў і зусім юныя аматары вакальнага майстэрства гэтага заўсёды маладога калектыву.

У праграме канцэрта-сустрэчы — музычныя творы, якія адкрылі «Песнярам» шлях на сцэны ўсяго свету: «Веранiка», «Касіў Ясь канюшыну», «Конь незацугляны»... Цёпла прынялі гледачы новы цыкл песень, прысвечаны 500-годдзю Францішка Скарыны, творы на вершы Я. Купалы, М. Багдановіча, М. Танка, Г. Бураўкіна і іншых беларускіх паэтаў.

Сярод тых, хто вітаў у гэты вечар юбіляраў, былі міністр культуры БССР Я. Вайтовіч, старшыня праўлення Саюза тэатральных дзеячаў БССР, народны артыст СССР Мікалай Яроменка, народная артыстка СССР, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола і Дзяржаўнай прэміі СССР кампазітар Аляксандра Пахмутава.

## ЧАТЫРНАЦЦАЦЬ УЗНАГАРОД

Найпрыгажэйшай кнігай краіны названа на ўсесаюзным конкурсе выданне «Вышэйшай школы» «Францыск Скарына — беларускі гуманіст, асветнік, першадрукар».

Афармленая мастаком В. Шолкам і аддрукаваная на Мінскім паліграфічным камбінаце імя Якуба Коласа, кніга пакарыла сэрцы журы і чытачоў, якія аднадушна прысудзілі ёй вышэйшую ўзнагароду конкурсу.

«Мастацтва кнігі-89» — традыцыйны конкурс імя Івана Фёдарава, удзел у якім прымаюць усе саюзныя рэспублікі, а таксама цэнтральныя выдавецтвы. Сёлета ў спаборніцтве ўдзельнічала каля 500 назваў кніг і альбомаў. Беларусь прадстаўлялі 10 рэспубліканскіх выдавецтваў. І ўпершыню за апошні перыяд рэспубліка заваявала адразу 14 узнагарод.

